Год выдавецтва II. ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

Царкоўна-грамадская і палітычная часопісь.
(Орган Праваслаўнага Беларускага Дэмократычнага Аб'яднаньня).
(Выходзіць 3 разы ў месяц).

№ 6 (12) | 28 ЛЮТАГА. | 1928 г.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Гэтманская вуліца № 4, кв. 16.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 месяц: 80 гр. на 3 месяцы 2 зл. 00 —

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр, за рад. пэтыту.

## АДОЗВА
### Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні.

ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСЫ!

Выбарная кампанія ўжо падыходзіць да свайго канца. Ужо блізкі той час, калі Вы ўсе павінны сваімі адносінамі да выбараў выявіць сваю нацыянальную і палітычную сьпеласьць, а разам з тым і зрабіць той, ці іншы ўплыў на сваё нацыянальнае і сацыяльнае адраджэньне!

Выбары ў Сойм і Сэнат у 1922 годзе ясна выявілі *нашую беларускую народную сілу ў Польшчы,* калі мы, далучыўшыся да Блёку Нацыянальных Меншасьцяў, правялі ў Сойм і Сэнат аж 14 сваіх прадстаўнікоў. Але гэтыя-ж выбары яшчэ ясьней паказалі нам, Беларусам, тое, што *маглі-б* мы, Беларусы, зрабіць, калі-б ня тая наша гаротная цемната, з прычыны якой ледзьве не палова беларускіх галасоў падана за польскія партыі: «П. П. С.» і «Вызваленьне».

Калі-б тады ня гэта наша беларуская цемната, мы маглі-б правясьці ў Сойм і Сэнат *ня менш 25 асоб,* якія там, у парлямэнце, дзе ўсё рашаецца большасьцю галасоў, бязумоўна адыгралі-б большую ро-

лю і мелі-б большы ўплыў на справы.

Калі-б тагды ня гэта наша беларуская цямната, не правялі-б тады мы тых людзей, якія пасьля галасавалі за асаднікаў і праводзілі школьны закон, які ня даў нам ніводнай школы.

Цяпер мы ўжо ня зробім гэтай памылкі, бо цяпер кожны Беларус, і малы і стары, і ў месьце і ў самай далёкай цёмнай вёсцы, добра ведае, што такое «П. П. С.» і «Вызваленьне» і галасоў за іх не падасьць.

Але здарылася ў нас іншае, яшчэ горшае гора. Самі Беларусы падзяліліся на некалькі групаў. Праўдзівей сказаць, ня мы, а чужынцы наўмысьлі падзялілі нас і цяпер стараюцца яшчэ больш паглыбіць наш разлад і тым больш і больш разьбіваць нашу выбарную сілу.

А між іншым, гэтыя выбары для нас маюць яшчэ большае значэньне, чым папярэднія. Цяпер, калі справа нацыянальных меншасьцяў, справа абароны іх правоў ува ўсіх дзяржавах, ужо перайшла межы ўнутраных справаў і стала справай міжнародных паразуменьняў, цяпер, калі беларускай справай зацікаўлены ўвесь сьвет,—цяпер нам бязумоўна ёсьць асобная патрэба выявіць і сваю лічбовую сілу, і сваю нацыанальную сьведамасьць.

*Беларускі Нацыянальны Камітэт,* які аб'ядныває ў сабе ўсе ўзапраўдныя беларускія палітычныя партыі, якія існавалі ў Польшчы перад выбарамі, а таксама розныя культурна-гаспадарскія і асьвятовыя беларускія арганізацыі, зварочваецца да Вас, грамадзяне, са шчырым, гарачым заклікам:

*у час гэтых выбараў кінуць усялякія спрэчкі, кінуць унутраную барацьбу, кінуць узаемнае абліваньне памыямі адзін аднаго і аб'яднацца ў адзін дружны і моцны нацыянальны фронт!*

Але каля каго аб'яднацца? За каго галасаваць?

Беларускі Нацыянальны Камітэт стаіць на міжпартыйным нацыянальным грунце. Дзеля гэтага ён ня можа і ня будзе ганіць тую, ці іншую беларускую групу, як з тых, якія ўвайшлі ў Камітэт, так і з тых, якія яшчэ не ўвайшлі ў яго склад,—бо кожная беларуская, узапраўды беларуская арганізацыя, мае права на існаваньне.

Але Беларускі Нацыянальны Камітэт, які стаіць на варце беларускай нацыянальнай справы, якому з яго аб'ядноўчай вышыні лепш відаць гэтая справа, бярэ на сябе абавязак высьвятліць гэту выбарную справу перад Вамі, каб Вы зусім сьвядома прынялі тое, ці іншае рашэньне.

Слухайце-ж Беларусы! Слухайце ўсе: сяляне і работнікі, слухайце нялічная беларуская інтэлігенцыя, слухайце беларускае духавенства, — тыя, хто не аддзяліўся ад Беларускага Народу, хто любіць яго, хто сумуе аб яго цяжкай долі, хто радуецца яго пасьпеху, хто змагаецца за яго будучыню!

Усе беларускія партыі разьбіліся на дробныя кавалкі, толькі тыя арганізацыі, якія стварылі Блёк Нацыянальных Меншасьцяў, ня толькі не раз'ядналіся, а наадварот, змаглі аб'яднаць у Беларускім Цэнтр. Выбарным Камітэце аж чатыры беларускіх палітычных арганізацыі. Аб'яднаўшыся між сабой, яны яшчэ больш узмацнілі сябе далучыўшыся да Блёку Нацыянальных Меншасьцяў. Дзякуючы гэтаму, толькі гэта адна беларуская арганізацыя змагла падаць дзяржаўны сьпісак і гэтым аб'-

яднаць беларускую выбарную справу на ўсей Польшчы.

Іншыя беларускія групы і партыі, не гаворачы ўжо аб яўна здрадніцкіх, якія працуюць за грошы польскіх партыяў, ня маюць свайго агульнага нумару. Яны, разьбіўшыся на кавалкі, падалі свае сьпіскі тольк і ў некаторых вокругах. Дзеля гэтага яны ня маюць надзеі правясьці шмат сваіх кандыдатаў, але за тое яны *могуць нарабіць многа шкоды беларускай выбарнай справе, адрываючы галасы ад агульнага беларускага блёку.*

Дзеля гэтага кожны Беларус павінен добра памятаваць і добра ведаць, што:

*Той, хто з Беларусаў зусім ня ідзе на выбары, ці той, хто 4-га ці 11-га сакавіка будзе галасаваць не за 18, а за іншы які нумар, той адрывае, як ад жывога цела, ад свайго Беларускага Народу кавалак яго сілы, яго моцы, — той здраджвае сваю Бацькаўшчыну, той прадае за чужыя пасулы свае родныя беларускія інтарэсы, інтарэсы свайго роднага кроўнага народу, той абніжае яго павагу і яго нацыянальны рост!*

Кіньце-ж, Беларусы, усе спрэчкі, усе непаразуменьні, мы разлічымся пасьля між сабой у сваім унутраным жыцьці, а цяпер, у час выбараў, ідзіце ўсе адзіным супольным фронтам, адной сьцяной, усім мірам-народам, як адзін чалавек, і *галасуйце толькі за супольны беларускі блёк, толькі за* **№ 18.**

## Да грамадзян выбаршчыкаў Лідзкага вокругу.

Акружная Выбарная Камісія ў Лідзе прызнала няважным наш сьпісак кандыдатаў у Сойм № 18 Блёку Нацыянальных Меншасьцяў.

Гэтае ўневажненьне мы ня можам прызнаць за праўнае, дзеля чаго ўжо падалі жалабу ў Найвышэйшы Суд у Варшаве. Маем поўную надзею, што Суд, разгледзіўшы справу ў сьпешным порадку, пастановіць зацьвердзіць сьпісак кандыдатаў Блёку Нацыянальных Меншасьцяў па Лідзкаму выбарнаму вокругу.

Калі-б на‘т Найвышэйшы Суд прыхільна ня вырашыў гэтае справы, дык пасьля выбараў будзе пададзена жалаба аб скасаваньні выбараў з прычыны недакладнага выкананьня выбарнага закону і вызначэньні новых выбараў у Лідзкім выбарным вокрузе.

У сувязі з гэтым Беларускі Цэнтральны Аб‘яднаны Выбарны Камітэт Блёку Нацыянальных Меншасьцяў заклікае ўсіх Беларусаў-выбаршчыкаў Лідзкага вокругу (паветы: Лідзкі, Ашмянскі, Валожынскі, Маладэчанскі і Вялейскі) не пакідаць выбарнае справы, вясьці далей агітацыю за наш сьпісак і ў дзень 4-га і 11 сакавіка галасаваць за № 18.

Незалежна ад соймовага сьпіску па Лідзкаму вокругу ў паветах гэтага вокругу, абавязваюць нашыя сьпіскі ў Сэнат (па Віленскаму і Наваградзкаму ваяводзтву), якія зацьверджаны.

Вось гэтыя аргуманты ёсьць яснымі доказамі таго, што Белалусы ў дзень 4.га і 11 сакавіка павінны галасаваць толькі за свой сьпісак № 18.

Апрача сьпіску № 18 ў Лідзкім вокрузе няма іншага запраўды беларускага сьпіску. Сьпіскі Паўлюкевіча і Янкі Станкевіча зьяўляюцца сьпіскамі здраднікаў, якія запрадаліся польскім эндэкам і дэмакратам.

Беларусы, сяляне і работнікі! Ні аднаго голасу не дайце за гэтыя здрадніцкія сьпіскі, а ўсе, як адзін, 4-га і 11 сакавіка галасуйце за Беларускі Аб'яднаны сьпісак Блёку Нацыянальных Меншасьцяў **№ 18.**

**Бел. Цэнтр. Аб'ядн. Выб. К-т Блёку Нац. Меншасьцяў.**

— —

Згодна пастановы з рэзалюцыі Лідзкага вокругу, ня гледзячы на часовае ўстрыманьне нашага сьпіску № 18, справа якая скіравана ў Найвышэйшы Суд і бязумоўна будзе прызнанай, гэтым заклікаем грамадзян выбаршчкаў не паддаць духам і не аддаваць сваіх галасоў ні за якія іншыя, чужыя інтарэсам Беларускага працоўнага Народу, сьпіскі, а трымацца да канца і галасаваць за адзіны праўдзіва беларускі сьпісак Блёку Нацыянальных Меншасьцяў і сьмела, веручы ў лепшую сьветлую будучыню, галасаваць за № 18.

Дык, грамадзяне, выбаршчыкі паветаў: Лідзкага, Ашмянскага, Валожынскага, Маладэчанскага і Вялейскага, Вашым абавязкам ёсьць споўніць волю Беларускага Народу і ў дзень 4 і 11 сакавіка, не зважаючы на розных агітататараў і якія-б ня былі перашкоды, усім ісьці на галасаваньне і ўкінуць толькі наш № 18.

Прэзыдуюм Лідзкага Акружнага Выбарнага Камітэту Блёку Нацыянальных Меншасьцяў:

Старшыня **Я. Пазьняк**,
Віцэ-старшыня **Яковіч**,
Сэкрэтар **Я. Малец**,
Сябра **Тодар Куніцкі**.

# Бяз грунту

(Да пытаньня аб прававым і кананічным становішчы Праваслаўнай Царквы ў Польшчы).

Афіціяльная праваслаўная іерархія ў Польшчы, пачынаючы ад пакойнага м. Георгія, заўсёды стараецца адзначыць, што яна нібы нешта зрабіла для палепшаньня правовага палажэньня праваслаўнай царквы ў Польшчы.

Папярэдні стан Царквы (да мітр. Георгія) яна называе „безпраўным" і „хаотіческім состояніем" *).

Першым актам „выводящім Православную церковь из безправнаго положенія і прежняго хаоса", яна ўважае падпісаньне праз мітр. Георгія ў студні 1921 года з польскім урадам „конкордату", які пасьля быў са згоды таго-ж мітрапаліта выданы як „тымчасовыя правілы" для Праваслаўнай Царквы ў Польшчы **). У актах абвінавачаньня архіепіскапаў Елеўферыя і Уладзіміра, яны так сама апраўдываюць іх высылку тым, што гэтыя архіерэі нібы зусім ня стараліся аб правох Царквы ў Польшчы і што высылка іх патрэбна была нібы дзеля таго, каб вывясьці іхнія епархіі з безпраўнага становішча. Гэтым жа тлумачыцца і правядзеньне імі бяз сабору ў Польшчы аўтокефаліі, а таксама і іншыя іхныя некананічныя акты.

Хоць у хрысьціянскім, а тым больш царкоўным жыцьці, ніякая хоць і добрая мэта ня апраўдывае нядобрых срэдстваў, але ўсё-ж магло-б неяк троху паменьшыць віну гэтай іерархіі тое, калі-б яна запраўды гэтымі некананічнымі актамі дала праваслаўнай царкве ў Польшчы прававое становішча. А ці-ж гэта так,—будзем аб ей судзіць з яе-ж уласных слоў.

У канцы 1925 года мітр. Дыонісі з сваім Сынодам падалі мэмарыял да

*) Гл. „Вѣстник Правсславной Митрополіи в Польшѣ" № 35, 1924 г. стр. 1.

**) Там-жа.

польскага ураду, у якім вось як рысуюць прававое становішча Царквы.

„Становішча праваслаўнай царквы ў Польшчы ня можна прызнаць нармальным“, **„у галіне права ўласнасьці правы Праваслаўнай Царквы зусім ня істнуюць“**, „уся нярухомая ўласнасьць царквы фактычна падпала пад канфіскацыю“, „міністэрства ня уэнае **права ўласнасьці нават на храмы** і міма ўсякіх пратэстаў дае дазваленьне на зьнішчэньне храмаў і кладбішчаў“, былі прыклады замыканьня цэркваў і недапусканьня ў іх сьвяшчэннікаў, „у астатнія часы былі адзначаны выпадкі так званай рэвіндзікацыі“,—г. е. проста пранікнавеньня (у царкву) р.-каталічаскага духавенства пасрэдствам ламаньня замкоў, пасьля чаго царквы заставаліся ў ва ўласнасьці каталікоў, ці ў лепшым выпадку запячатываліся, а віноватыя заставаліся бяз адказу“, **„царкоўная ўлада** і іерархія ад ніжэйшых да вышэйшых ступеняў **пастаўлена ў залежнасьеь ад добрай ці злой волі адміністрацыйных ўлад“, „з духоўнай школай міністэрства выробляе нейкія „опыты“** зусім бяз ведама духоўных улад“, „ніжэйшая рэлігійная асьвета амаль што зусім ня існуе“, „духавенству катэгарычна забаронены васкрэсныя школы“ для навучаньня дзяцей пры царкве пачаткам веры, царкоўна-славянскай мове і царкоўнаму сьпеву“, духавенства ледзьве церпіцца, будучы **пазбаўлена элементарных правоў**“ і г. далей *).

Чым жа, запытаемся мы, гэтае „правовое палажэньне“ розьніцца ад таго „безпраўнага і хаотычнага“, якое было да Георгія,за якое афіцыальная цяперашняя іерархія закід высланым па яе прозьбе іерархам і ад якога так урачыста абяцала ратаваць Праваслаўную Царкву ў Польшчы?.

Калі нарэшце пасьля яе стараньняў аказаліся такія рэзультаты, дык ці варта ж было для гэтага прэдаваць і высылаць з Польшчы чатырох архіерэяў, неправідлова абвінавачываць іх перад сьвецкай уладай у няіствуючых палітычных праступленьнях, рабіць цэлы рад нарушэньняў кананаў, разбурываць ужо наладжаны саборны строй у польскай царкве?

*) Гл. „Воскр. Чтеніе“ 1926 г. Студзень.

Калі папярэдняе палажэніе праваслаўнай царквы было бязпраўнае, дык ня лепшае, як бачым, стала і цяпер, а símат і горшае, бо тады, напрыклад, ня рабілася такіх экспэрымэнтаў з духоўнай школай, якія вырабляюцца цяпер.

Праўда, можа ўперад былі часьцей рожныя надужыцьці мяйсцовых уладаў, напрыклад адбіраньне цэркваў, дамоў, рэдукаваньне парафіяў, але гэта бывала зусім не ад таго, што тады ўлада ці пэўныя кругі р.-каталіцкага касьцёлу „мелі права“ гэта рабіць, — г. ё. не ад „правовага становішча“ Царквы, а ад таго, што наагул дзяржаўнае жыцьцё Польшчы менш было наладжана і было большае поле да мяйсцовых надужыцьцяў; ды і больш чаго было адымаць, а цяперь ужо амаль што і адымаць няма чаго.

Калі-ж гаварыць аб **чыста прававым**, г. ё. **фармальна прававым**, палажэньні Прав. Царквы, то бязумоўна **яно тады стаяла бяз параўнаньня вышэй чмы цяперашнее**, пасьля так зварых „тымчасовых пшэпісаў“.

Як ведама, на ўсіх тых абшарах Польшчы, якія былі перад вайной пад Расеяй, і дасюль пануюць расейскія законы. Паводле гэтых законаў мы карыстаемся і з права прыватнага, і з права публічнага з тымі нязначнымі зьменамі, якія пасьпелі зрабіць Сойм, ці Сэнат, ці прэзыдэнт у нядаўнія часы. Паводле гэтых законаў мы і судзімся і ўсе гэтыя законы маюць у нас поўную сілу датуль, пакуль яны ня будуць адменены Соймам і Сэнатам. Напрыклад эпархіальнае упраўленьне рэгулявалася так званым „Высочайше ўтвержденным уставом духоўных консісторій,“ духоўныя школы істнавалі і кіраваліся такім самым „уставам духоўных учылішчаў і духоўных сэмінарыяў,“ і гэтыя уставы былі абавязковыя (і ёсьць), як для нас так і для ўраду, так і для суда, пакуль тое ці іншае з гэтых уставаў не адменіваецца ў парадку законадаўчым. А дасюль яны яшчэ не адменены ўставадаўча.

Далей—паводле констытуцыі (§§ 113 і 119) — усе унутранныя (кананічныя) царкоўныя законы, пасколькі яны ня спрэчны з законамі дзяржавы, так сама для дзяржавы абавязкавы.

І мы успамінаючы папярэднія адносіны да царкоўных уладаў сьвецкай

Польскай ўлады, мінаючы выпадкі тых ці іншых надужыцьцяў, ня можам сказаць, што польскія ўлады наагул ня лічыліся з гэтым.

Напрыклад, калі трэба было склікаць, епархіальнае сабраньне, то Епархіальны Савет зварочываўся да адпаведнай сьвецкай улады і падаваў заявы **пазываючыся на адпаведныя пастановы Маскоўскага Царкоўнага Сабору 1917—18 г.** І сьвецкая ўлада прысылала дазвол, нават у такой форме: **„дазваляецца Епархіальнаму Савету на падставе** такой і гэтакай пастановы Маск. Ц. Сабору склікаць З'езд" і г. д. **І ніколі адмовы ня было.**

Калі ў свой час у Вільні патрэбавалася Епархіальнаму Савету у мэце унікненьня ўсякіх непаразуменьняў у Судзе прызнаньня яго правоў на раўне з былой Консысторыяй, то гэты Савет падаў адпаведную заяву да ўраду, што паводле канонічна абавязкавай, для яго пастановы тагож Сабору Кансысторыя заменена Епархіальным Саветам. І ўрад выдаў Віленскаму Епарх. Савету патрэбнае „засьведчэньне", дзе ізноў на падставе таго-ж Сабару прызнаваў Епархіяльны Савет правамочным заступнікам былых кансысторыяў.

Адсюль відаць, як сьвецкая польская ўлада,— у каждым разе тыя прадстаўнікі яе, каторыя стаялі на праўным грунце і не надужывалі сваей ўлады,— лічыліся з былым прававым палажэньнем Праваслаўнай Царквы, акрэсьленым перадваеннымі законамі і яе канонічнымі падставамі.

Тое самае нават як раз было і з духоўнай школай. Згодна з „уставай духоўных Сэмінарыяў" улада давала ей адпаведныя правы. Напр. звальняла ад воінскай павіннасьці да 28 гадовага ўзросту, прыймала нават з пачатку сэмінарыстаў у Віленскі унівэрсытэт згодна з былым цыркулярам расейскага міністра асьветы Ігнацьева, ня умешывалася зусім у ва ўнутраныя справы сэмінарыі, лічучыся з „уставам", паводле якога сэмінарыі выключна падлягаюць царкоўнай ўладзе, а ня сьвецкай. Больш таго, — улада ня перашкаджала ў свой час і зрабіць рэформу сэмінарыі, якая ўжо выхадзіла з межаў „устава" (аб'ядненьне сэмінарыі ў дзесяцёх - клясовую школу разам з духоўным учылішчам), бо гэтая рэформа была дазволена ужо Маскоўскім Саборам, — абавязкавым для праваслаўнай царквы, а адсюль была такой жа і для ўлады сьвецкай, паскольку сама Царква ўважала яе для сябе абавязкавай.

Пры ўсім гэтым, трэба дадаць, што і сэмінарыя, і Епархіяльны Савет атрымлівалі грашавую запамогу, дый яшчэ нават ня так як цяпер, а „у безкантрольнае распараджэньне",—г. с. распрадзяленьне гэтай сумы залежала выключна ад самай царкоўнай улады а справаздачу яна давала толькі Епархіальнаму зьезду.

Адсюль відаць, што падпісаньне праз мітр. Георгія ў свой час „конкордату", выданага пасьля „з яго згоды" у форме „тымчасовых пшэпісаў", зусім ня было добрадзейным яго актам „выводяшчым Православную Царкву в Польше из безправнаго положэнія", а наадварот— **дабравольнай уступкай дужа выгаднага правовага палажэньня, якое царква** (de jure) **мела ў Польшчы да гэтага акта**, — дабравольнай уступкай, на якую мітр. Георгій зусім ня меў канонічнага права, бо зрабіў гэта без пастановы Сабору, які па царкоўным законам, узнаным і польскай дзяржавай, зьяўляецца вышэйшай царкоўнай уладай у Польшчы.

Тое самае і з сэмінарыяй. Калі, напрыклад, у Вільні архімандрыт Філіп (з даручэньня Сыноду) згадзіўся на падпарадкаваньне сэмінарыі замест архіерэя куратарыуму, —ен дабравольна адкінуў тое прававое палажэньне, якое мела сэмінарыя поводле перадвоенных законаў і паводле пастановаў Сабору. Бо зразумела, што тыя канонічныя ці іншыя падставы і правы, якія мы самі адкідаем, ці ня ўважаем абавязкавымі для сябе, тым больш ня зьяўляюцца абавязковымі, —для сьвецкай ўлады.

Такім чынам наша царква пасьля гэтага асталася ў сэнсе прававым вісець у паветры, вярней, — вісець на нітачцы „тымчасовых пшэпісаў", якія-ж сама гэта іерархія *) прызнае „во многом несовершэнным",—дужа мягка выражаючыся, бо гэтае яе існаваньне пад тымчасовымі пшэпісамі і давяло Царкву да такога становішча, якое высьветлена вышэй праз гэтую-ж самую іерархію, і на якое цяпер жаліцца, забыўшыся толь-

*) Там жа.

кі дадаць адно: „mea culpa, mea maxima culpa“, (мая віна, мая вялікая віна).

Мы і ня думаем тут сьцьверджываць таго, што-б былыя расейскія законы зьяўляюцца нейкімі нятыкальнымі ці ня зьмяняемымі. Маглі-б і яны быць зьменены, але... у заканадаўчым парадку. Бяз гэтага-ж усялякае нарушэньне іх зьяўляецца надужыцьцем, з якім можна весьці барацьбу легальным парадкам.

На жаданьне ўлады аб праўным акрэсьленьні палажэньня царквы, іерархія **павінна была-б** зажадаць праўнага Царкоўнага Сабору і гэты Сабор як паўнамоцная царкоўная ўлада і зрабіў бы конкордат з уладай сьвецкай, а пасьля ён зацьверджаны быў-бы праз Сойм і Сэнат. Так, напрыклад, было зроблена з р.-каталіцкай царквой. Польскі ўрад зрабіў канкардат з найвышэйшай уладой гэтай царквы — папай, пасьля чаго канкардат гэты зацьвердзіў Сойм. Гэта-б магла зрабіць і праваслаўная царква і можна запэўніць, што яе правы ня былі-б тады горшымі чым правы царквы р.-каталіцкай, бо Сойм, як палата ўставадаўчая ня мог-бы пайсьці проціў канстытуцыі і пазбавіць царкву тых правоў, якія-б мела царква каталіцкая.

Чаму-ж яна гэтая іерархія не зрабіла так?

— Дзеля таго, што апякавалася зусім не аб правах царквы, як яна гаворыць, а аб сабе, аб правах і дабрабыце іерархі. Вось гэтая старана „царкоўнага жыцьця“ палепшылася ўзапраўды. І палепшылася ня столькі ад „щэдрот“ ураду, які дужа скупа выдае асігнаваныя Соймам на царкву грошы, зацягіваючы выдачу сотняў тысячаў, *) а адтаго, што гэтымі тымчасовымі пшэпісамі і дабравольнай адмовай ад Сабору і саборнасьці афіцыяльная царкоўная ўлада атрымала магчымасьць безкантрольна павышаць царкоўныя падаткі і распараджацца па сваей волі безкантрольна царкоўнай уласьнасьцью.

Вось змагаючыся абараніць гэтыя свае правы, але уступаючы правы царкоўныя, яна і давяла царкву да такога „праўнага“ становішча, аб якім сама у мэморыяле плача але... ці шчырымі сьлязмі?

(Працяг будзе).

**В. Баргановіч.**

*) Гл. Маю прамову у Сэнаце 11-го сакавіка 1927 г.

# Беларуская выбарная справа.

Па ўсей нашай Заходняй Беларусі, пачынаючы ад Браслаўшчыны аж да Піншчыны ўсюды на першым мейсцы па сваей павазе пануе, адзіны на ўсю Польшчу Беларускі Аб'яднаны сьпісак № 18.

Паасобна ў розных вакругох выбарная справа выдаецца так:

У **Сьвянцянскім** выбарн. вокрузе (Сьвянцянскі, Пастаўскі, Браслаўскі і Дзісьненскі паветы) ёсьць толькі адзін беларускі сьпісак № 18. Іншых беларускіх сьпіскаў там няма.

Ад усіх мяйсцовасьцяў Дзісьненскага павету надыходзяць весткі, што тутэйшае беларускае жыхарства вельмі спачувае Блёку Нац. Меншасьцяў і за яго № 18, аддадуць свае галасы. Агітатараў ад польскіх партыяў проста такі праганяюць далоў, толькі бэбэхаўцаў з № 1 не чапаюць, ведаючы, што гэтая безпартыйная партня займае прывілегіраванае палажэньне. Але-ж галасаваць за гэты сьпісак ніхто ня будзе, дзеля таго, што ён для беларусоў чужы: а ад польскіх абшарнікаў нам нічога добрага ня было і ня будзе.

Ніхто ня хоча нават і слухаць і аб Расейскім сьпіску Р. Н. О., ведаючы добра, што яны, калі ўперад ня змагаліся за нашыя справы, дык і цяпер змагацца за нас ня будуць.

Аб „Вызваленьнях“ ды другіх левых „партыях“ гэтага гатунку сялянства адклікаецца з пагардай да іх і агідай.

Такія-ж самыя весткі надходзяць з Браслаўскага, Сьвянцянскага і Па-

стаўскага паветаў, якія ўваходзяць у склад Сьвянцянскага выбарнага вокругу.

Так што на выбарах Блёк Нацыянальных Меншасьцяў у Сьвянцянскім вокрузе здабудзе абсалютную перамогу.

З гэтага вокругу трэба выбраць на паслоў. Выстаўлены кандыдатамі: гр. гр. Каруза П., Стэповіч А., ад Сьвянцянскага павету, Юхневіч К., ад Браслаўскага павету (цяпер нядаўна арыштаваны), Конан ад Дзісьненскага павету Жыд, адвакат Чэрніхаў, аж на пятым мейсцы. Так што парляманцкае прадстаўніцтва ад Сьвянцянскага выбарнага вокругу за Беларусамі забясьпечана.

**У Навагрздзкім** вокрузе выстаўлена вельмі многа сьпіскаў, якія маюць беларускія назовы.

Вядомы ў Баранавіцкім раёне „асобнік з пад чорнае зьвязды" Аўгень Міткевіч, той Міткевіч, што як піша яго былы прыяцель Паўлюкевіч, — пракраўся ў бытнасьць кіраўніком прытулку ў Горадні і што нарабіў шмат розных няпрыгожых справаў, выставіў свой сьпісак кандыдатаў, Галасаваць за гэты сьпісак ніхто ня будзе.

Паўлюкевіч, якога цяпер самі-ж яго прыяцелі выставілі вон з яго „Беларускай хаткі" (ігорны дом у Вільні) таксама ня мае ніякіх пасьпехаў. Тыя мясцовасьці, як Сіняўка і Дунайчыцы, якія, няведама чаму, лічыліся дагэтуль гнёздамі Паўлюкевіча, выявілі найлепшую беларускую нацыянальную сьведамасьць і будуць галасаваць за № 18, адзіны, запраўды беларускі сьпісак.

Некалі карыстаўся павагаю ў Навагрздзкай ваколіцы былы грамадзіст Чатырка. Але-ж цяпер, калі Чатырка паставіў інтарэсы сваей сям'і вышэй інтарэсаў народных і пайшоў на ўгоду з непажаданымі для Беларусаў дзейнікамі, дык адразу страціў пашану. На яго глядзяць, як на здрадніка і раўняюць з Міткевічам ды Паўлюкевічам.

Магутным канкурэнтам мог быць сьпісак, калі-б удачна выставілі яго тыя асобы, якія былі і працавалі ў б. „грамадзе". Але-ж дзеля таго, што яны разьбіліся і выставілі два сьпіскі, акрамя Чатыркі, дык цяпер сяляне гавораць, што няма чаго за іх галасаваць. Што яны могуць зрабіць для народу, калі нават самі паміж сабою дзеляцца, Могуць толькі папсаваць і нарабіць шкоды беларускай выбарчай справе, адрываючы галасы ад агульнага Блёку,

Апрача Чатыркі дробныя былыя грамадоўскія „дзеячы" у Навагрздзкім вокрузе яшчэ стварылі два сьпіскі, пры чым на адзін паставілі арыштаваных паслоў, а другі ўжо нібы апазыцыйны (праціўны) гэтаму сьпіску.

Яны так зрабілі спадзяваючыся, відаць, на тое, што ўлада ўневажніць „паслоўскі сьпісак" за тое што паслы знаходзяцца пад судом, а тады яны будуць галасаваць за другі, — апазыцыйны. А калі ўлада „паслоўскі" сьпісак ня ўняважніла, дык стварылася нейкае „дурацкае" палажэньне, бо прыходзіцца агітаваць проці саміх сябе.

Паставіўшы гэтак няўдачна справу сьпіскаў, дзе выступілі два сьпіскі адзін проці аднаго, ды распачалі гэтакім парадкам канкурэнцыю за перамогу, яны абсалютна адхілілі ад сябе сваіх сымпатыкаў. Дый праўда! Як галасаваць, калі ёсьць два сьпіскі, якія выліліся з адной крыніцы? Ясна і зразумела, што гэтым яны правалілі сваю справу.

Беларускае сялянства **Лідзкага** павету вельмі прыхільна спатыкае агітатараў і інструктараў Бел. Цэнтр. Аб'яднанага Выбарнага Камітэту. Надта цікавяцца яго перадвыбарнай літэратурай і ўсюды пануе поўнае перакананьне, што галасаваць трэба толькі за № 18.

Ніякія польскія партыі пасьпеху ня маюць... Асабліва-ж з пагардаю адносяцца да „доктара" Янкі Станкевіча.

Выданая Белар. Цэнтр. Аб'яднаным Выбарчым Камітэтам лістоўка „Хто такі Янка Станкевіч і яго выбарная крамка?" адкрыла ўсім вочы, так што Янка Станкевіч абсалютна праваліўся. Паўлюкевічаўскі сьпісак, які носіць назоў „Агульна—нацыянальны" таксама, як і Станкевічаўскі, нікога ня цікавіць, а наадварот, выклікае пагарду да яго.

**У Валожынскім, Маладэчанскім Вялейскім** паветах бачым тое самае.

Бышыя грамадзісты: Сухадолец, Шакун, Валынец, і Алякс. Каляда за тое, што прыхіліліся да Станкевічавае працы, зрабілі ўсякую пашану, на іх глядзяць, як на аружжа ў чужынецкіх руках, якім цёмныя сілы, на чале з „місюгінай" Янкам Станкевічам, пачалі змагацца з беларускім і адраджэнскім рухам.

Беларускае сялянства ў пераважнай большасьці выказываецца за Блёк Нац. Меншасьцяў і будзе галасаваць за № 18 уважаючы, што гэта ёсьць запраўды адзіны беларускі сьпісак, кандыдаты якога стаяць на грунце шчырай абароны правоў і інтарэсаў Беларускага Народу.

Гэтакую добрую выбарную справу ў Лідзе дужа папсавала неспадзяванае **уневажненьне** лідзкага акружнога сьпіска Блёку Нацыянальных Меньшасьцяў, праз Лідзкую выбарчую камісію.

Повадам да гэтага ўневажненьня сталася тое, што некалькі асоб падпісаўшыхся пад сьпіскам, спужаліся зробленых ім лідзкай паліцыяй пратаколаў, як нібы рэпрэсіяў за гэта, і адракліся праз паліцаю ад подпісаў, так што іх асталося менш 50-х, якія вымагае выбарны закон.

Пасьля, калі гэтым асобам выясьнілі сутнасьць справы; яны ізноў падалі ўжо зацьверджаныя нотарыусам свае подпісы і асьведчаньні, што яны зусім сьведама падпісаліся пад сьпіскам № 18, але выбарны камісар гэтыя асьведчаньні пад увагу ня прыняў і Лідзкая Акружная Выбарная Камісія ўнявважніла сьпісак кандыдатаў Блёку Нацыянальных Меншасьцяў. Пастанова камісіі абжалавана ў Найвышэйшы Суд. Ёсьць надзеі, што Найвышэйшы Суд пастанову камісіі адхіліць, вярнуўшы гэтым важнасьць сьпіску. Так што **трэба галасаваць толькі за сьпісак № 18, тым больш што гэты № 18 у нас важны ня толькі да Сойму але і да Сэнату.**

**У Беластоцкім** выбарным вокрузе (Беластоцкі, Ваўкавыскі і Сакольскі паветы) таксама ёсьць толькі адзін беларускі сьпісак, які мае № 18.

Гэтакім парадкам у гэтым вокрузе вельмі дагодным зьяўляецца палажэньне выбаршчыкаў - Беларусаў, якім ня трэ' будзе асьцярагацца розных Паўлюкевічаў, Янкаў Станкевічаў, Чатыркаў як у іншых выбарчых вокругах.

**У Бельскім** (Вастроўскім) вокрузе некатарых беларусоў крыху ўстрывожыла тое, што на першым мейсцу пастаўлены аказаўся ня беларус, як чакалі, а жыд.

Ня спадзяючыся правясьці двух некатарыя з беларусаў вагаюцца галасаваць за № 18, бо думаюць што правядуць гэтым жыда. Дык дзеля гэтага выясьняем, што той самый жыд (Белы) адначасна стаіць другім (на пэўным мейсцу) па сэнацкаму сьпіску ў павеце Берасьцейскім і згодна з умоваў прадстаўнікоў Блёку павінен будзе ўзяць мандат па Берасьцю.

Гэта знача, што другое мейсца па Бельску, якое займае вядомы барацьбіт за свабоду праваслаўнай царквы ў Польшчы **а. Л. Голад** — ёсьць фактычна першае. Гэта трэба ведаць кожнаму беларусу, а пераважна беларусу праваслаўнаму, і выясьніць тым праваслаўным, каторыя гэтага яшчэ ня ведаюць ці не разумеюць.—каб усе дружна абавязкава галасавалі і ў Сойм і ў Сэнат за № 18. У тых мяйсцовасьцях у якіх добра знаюць а. Луку Голада з вялікай радасьцьцю падхапілі вестку аб яго кандыдатуры. На няшчасьцьце сам ён, дужа прастудзіўшыся ў часе сваіх паездак на Бельшчыне, ужо пяты тыдзень ляжыць у ложку ў шпіталі і ня можа выехаць на павет.

**У Берасьцейскім** вокрузе дзе ў прошлыя (1922 г.) выбары зусім ня было кандыдата беларуса, цяпер наша кандыдатура (А. Пазьняка) на другім мейсцу,—гэта ёсьць зусім абязпечаная і за яе будуць галасаваць усе сьвядомые беларусы.

**У Горадні** беларуская ад Блёку Нац. Менш. кандыдатура — першая П. Фядурука, які там кандыдуе, усе горадзенцы добра ведаюць. Там можна сказаць няма больш ведамай і папулярнай асобы, дзеля чаго кандыдатуру яго насяленьне знаткала з вялікай прыемнасьцьцю і бязумоўна галасаваць будуць за яго.

**У Пінскім** вокрузе апрача беларусоў разьвяло вялікую агітацыю Р. Н. О. („Русское Народное Объединеніе"). Яно пускае ў народ свае газэты і лістоўкі, у якіх, стараецца зманіць народ рознымі абяцанкамі пераважна аб зямлі. Але тых беларусоў, якія чытаюць газэты і ведаюць больш-менш палітычную справу гэтым ня заманіш, бо, скажам мы, ці чуў з іх хто аб тым, што ў папярэднім Сойме з расейцаў хто выступаў у абарону зямельных інтэрэсаў? Не. Толькі ў Сэнаце выступаў і гаварыў аб сялянскім беззямельлі сэнатар Коспяровіч, але-ж яго Р.Н.О. (ці не за гэта?

выключыла з сваей партыі і не паставіла на выбары. Адсюль відаць, што зямельныя абяцанкі для РНО перадусім толькі выбарнае срэдства.

Меньш здавалася шансаў правясьці нам свайго кандыдата ў Сойм па **Віленшчыне**, бо тут значная частка беларусоў—каталікі, дужа спалянізаваныя. Але цяпэр ужо ня тое, што было ў 1922 годзе. Нацыянальны рух расьце сярод беларусоў-каталікоў, як гаворыцца не па днях а па часам і ў гэтым годзе ёсьць ужо магчымасьць разлічываць на кандыдата і тут, трэба толькі каб усе беларусы дружна прыняліся за работу і дружна галасавалі.

За тое выбары ў Сэнат па Вільні стаяць у сэнсе магчымасьцяў у найлепшым стане. Тут беларусы і ўсе меншасьці павінны памятаваць, што пры невялікім напружаньні мы можам правясьці ўжо не аднаго а двух кандыдатаў. На першым мейсцы ў Сэнат на Віленшчыні стаіць вядомы б. беларускі сэнатар **Вячаслаў Багдановіч**, надзвычай моцныя прамовы якога ў Сэнаце ў абароне праваслаўнай царквы зрабілі імя яго вядомым сярод праваслаўных ня толькі ў Польшчы, а і па ўсяму сьвету. Тут беларусы безумоўна будуць галасаваць у Сэнат (11-га сакавіка) за **№ 18** і нават ня толькі беларусы, а і ўсе праваслаўныя.

**Сябра.**

## Працэс „Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады".

(*Першы дзень*).

(Паводле вестак польскай прэсы),

23 лютага 1928 году пачаўся даўно чаканы працэс 56 Беларусаў — сяброў б. „Грамады".

Будынак Віленскага Акружнага Суду, дзе разглядаецца гэтая цікавая для ўсяго грамадзянства справа, мае выгляд надзвычайны: перад ім таўпяцца людзі, а ў сярэдзіне — усюды пастарункі паліцыі. Ніхто ня можа папасьці на салю паседжаньня Суду, апрача тых, хто мае спэцыяльныя картачкі на ўход да салі.

Ужо перад 7-ю гадзінаю раніцы вастрожнымі карэткамі пад абаронаю пешых і конных паліцыянтаў — у Суд былі перавезены групамі ўсе абвінавачаныя з вастрогу на „Лукішках". Для абвінавачаных прыстаўлена некалькі лавак, сьведкі сканцэнтраваны ў салі Апэляцыйнага Суду.

Роўна а 11 гадзіне распачынаецца Суд. Старшыня — Аўсянка, судзьдзі: Ёдзэвіч, Барэйко і запасны судзьдзя Бжозоўскі. Пракуроры: Калапскі і Раўзэ. Сэкрэтары Суду: аплíканты Коркуць і Адынец.

За сталамі абароны сядзяць адвакаты: Бабяньскі, Дурач і Эттынгер—з Варшавы, і месцовыя: Абрамовіч, праф. Петрусэвіч, Кшыжаноўскі, Сенкевічанка, Залкінд, Мат'яш, Прэйс, Раманкевіч. Аплíканты мясцовых адвакатаў: Варатынскі, Марціноўскі і Сольц. Варшаўскія адвакаты Сьмяроўскі і Гонігвіль на першы дзень працэсу ня прыехалі.

Пры сталох для прадстаўнікоў прэсы, апрача справаздаўцаў мясцовых і сталічных польскіх газэтаў, сядзяць спэцыяльныя прадстаўнікі: „ТАСС"—а (афіцыянальнага савецкага тэлеграфнага агенцтва) — Кавальскі, маскоўскіх „Известий" — Брацін і Нью-ёрскага „Форвэртс"-у — Вэйнрайх.

На салі—радня абвінавачаных, між іншымі жонкі: Астроўскага, Рак-Міхайлоўскага, Тарашкевіча, Каўша і Луцкевіча.

Старшыня Суду азнаймíў, што працэс будзе разглядацца пры адчыненых дзьверах і толькі ў выпадках датычачых дзяржаўных тайнаў — дзьверы для публікі будуць зачынены.

Спраўджаньне фармуляраў абвінавачаных, пачалося ад б. пасла, праф. Тарашкевіча. Па спраўджаньні выясьняецца, што большасьць абвінавачаных — дробныя земляробы, толькі некалькі асобаў маюць вышэйшую або сярэднюю адукацыю. Між абвінавачаных — 1 паляк (Навакоўскі) і 1 татарын (Міськевіч). Рэшта—ад крыві і косьці Беларусы. Большасьць — праваслаў-

ныя, зусім мала каталікоў, 1 магамэтанін (Міськевіч) 1 мэтадысты (Бурсэвіч). Прызналіся „bezwyznaniowcami" (ня прыналежнымі ні да якае існуючае веры): былыя паслы Тарашкевіч і Валошын, а такжа гр. гр. Луцкевіч і Козіч.

Усе абвінавачаныя Суду свабодна і жыва адказваюць пабеларуску, нават паляк Навакоўскі і татарын Міськевіч.

П.ы спраўджаньні сьведкаў выясьнілася: з пазваных пракуратураю 421, ня прыехала 88. З паданых прозьвішчаў 242 сьведкаў з боку абвінавачаных прыехала на першы дзень працэсу 43. Між прозьвішчамі сьведкаў з боку абвінавачаных чутны былі такія прозьвішчы: Тугут, Хаміньскі, Касмоўская, Абрамовіч, Заштовт (для Тарашкевіча); Уласаў (для Міхайлоўскага); Бартэль і 8 прафэсараў (для Астроўскага); духоўныя ясобы: Сам йлаў, Беляеў, Марозаў, Васілеўскі і гр. Багдановіч (для Каўша); Мін. Васілеўскі, Тугут, Макоўскі, Сумарок, кс. Талочка, адв. Юндзіл, д-р Чарноўскі, д-р Выгодзкі, Янкоўскі (для Луцкеві а).

Пракуратура дамагаецца адчытаньня паказаньняў тых сьведкаў, каторы, па важных прычынах ня прыехалі на працэс.

Абарона-ж (першым выступіў праф. Петрусэвіч), просіць аб адкладзе справы, бо шмат сьведкаў, паказаньні якіх маюць важнае значэньне ў гэтым працэсе, не зьявілася.

Пасьля перарыву Суд пастанаўляе працэс прадаўжаць, сьведкам—пасланць паўторныя павесткі.

Сьведкі прыводзяцца да прысягі групамі па 50 асобаў, пры чым „bezwyznaniowcy" асьвядчаюць Старшыні Суду, што будуць гаварыць праўду. Пасьля прысягі кожнаму сьведку вызначацца дзень, на каторы ён павінен зьявіцца ў Суд для паказаньняў.

На гэтым закончаны першы дзень працэсу.

## „Бэ-Бэ" і яго „спаўпраца" з жондам.

Партыя „спаўпрацы з жондам" (№ 1), ці як яна афіцыяльна называецца В. В. Z. z R. („Безпартыйный Блёк Спаўпацы з Жондам") напэўна аб сабе думае, што, калі яна так назвалася, дык ужо стала у нейкае прывілегіёванае палажэньне, якое ей гварантуе поўную безадказнасьць, бо дапушчае ў сваей агітацыі і наагул у перадвыбарнай працы такі тэррор, як быццам у яго руках ужо знаходзіцца „уся улада".

Прывядзем тут некалькі красак з гэтай працы з польскіх газэтаў іншых напрамкаў, прычым адзначаем што скарочана гэтую „жондовую" партыю завуць Бэ Бэ („Безпартыйны Блёк").

**Тэрор у выбарнай акцыі Бэ-Бэ.** (Беспартыйны Блёк № 1). Пад такім загалоўкам „Dz. Wil." № 33 перадруковывае заметку з „Głosu Narodu". Прыводзім яе цалком.

„Мэтадай найбольш узлюбленай Б.Б. (№ 1) ёсьць тэрор. Тасуецца ён перадусім да ўрадоўцаў. Дзеецца гэта ў такі спосаб, што да данага саюзу ўрадоўцаў (чыноўнікаў) прыходзіць з Варшавы „ўказ":—выдаць адозву з запэўненьнем падтрыманьня сьпіску № 1. Калі ўрад саюзу мудры – такаю адозву выдае; сябры саюзу добра ведаюць, у якіх варунках адозва выдана, каб пайсьці быццам за ўказкай саюзу.

Тэрор тасуецца праз Б.Б. і да мяшчанства. Столькі людзей ёсьць зьвязаных з урадавымі і самаўрадавымі прадпрыемствамі, што кіраўнікі Б.Б. мусілі на гэты род грамадзян зьвярнуць увагу. „Не дастанеш крэдыту"... „Страціш даставу абутку"... „Пойдзеш вон з надзорчай рады"... калі не падпішаш адозву Б.Б. Дык падпісуюць. Бо што-ж рабіць: „перадусім жыцьцё, пасьля — філёзофія".

Тэрор—ясна—не абмінуў перадусім вёскі. Літэраты, прафэсары, ахвіцэры, якія кірчюць ў абозе Б.Б., маюць перакананьне, што селянін ёсьць дзіцём. Зусім з гэтым ня крыюцца нават перад сваімі палітычнымі праціўнікамі. Дык пад іх націскам (або з уласнай „добрай" волі) зэывае павятовая ўлада войтаў на нараду. Заяўляецца ім коратка і вузла-

вата:—як ня будзеце агітаваць за сьпісак Б. Б. — чакае вас урадавае сьледзтва ў справе валасных фундушаў (з якімі рэдка які войт дае сабе раду) ў справе недагляду ў валасной гаспадарцы і т. п. рэпрэсыі. Войты падпісываюць адозву за Бойкай (пястовец, што перакінуўся да Бэ-Бэ), п. стараста здаволены вяртаецца ў бюро. Назаўтра санацыйны орган валіць чатырохшпальтовую стацьцю з сэнсацыйным загалоўкам: „Усе войты з X павету за падрыманьне сьпіску № 1".

Як „працуюць" бэбэхаўцы на беларускіх вёсках, — пісаць хіба ня трэба, бо ўсе добра ведаюць.

У тым жа нумары „Dz. Wil." пад загалоўкам: „Zawód bojówki Bebechów", а таксама ў № 37 знаходзім жалабы на тое, як партыя БэБэ высылае свае „баювкі" на сабраньні польскіх эндэкаў:

„Да якой ступені даходзіць раззвярэньне (rozbestwienie) бэбэхаўцаў найбольш сьведчыць сыстэма агітацыі на абшары Сьвенцянскаго павету, гдзе сыстэматычна тэрорызуецца выбаршчык у пажаданьні, каб за ўсялякую цану застрашыць магчымых прыхільнікаў іншых партыяў".

„У Нова - Сьвенцянах, напрыклад, ані адзін жыхар каталік ня адважыцца даць салі на сабраньне, бо баіцца нападак бэбэхаўскіх баювак. Адначасна дужа многія далі свае подпісы пад адозвамі „адзінкі", баючыся страціць пасаду. Гэта было сьцьверджана на сабраньні ў Нова-Сьвянцянах", гдзе адзін з зялезнадарожнікаў публічна заявіў, што падпісаў адозву БэБэ таму, што баяўся, каб не ўсунулі яго з пасады. Удаставерана так сама, што сярод зялезнадарожнікаў зьбіралі падпісы вышэйшыя ўрадоўцы (Бахоўскі і Варнэло) у час службовага падарожжа".

Трэба сказаць, што гэты „тэррор" іншы раз прыймае сьмешныя, камічныя формы, бо ад страху ня ўгодзіць начальству, некаторыя урадоўцы ня могуць утрымацца, каб ня „пераўсердстваваць".

РНО-ўская газэта „Утро" (43) перадае як „перадвыбарныя жарты" Бэ Бэхаўцаў гэтакі расказ свайго агітатара. На паліцэйскім пастарунку на ст. Лахва (у Піньшчыне) затрымалі іхнюю агітацыйную літэратуру. А калі яе праз два дні зьвярнулі, дык яна ўжо аказалася літэратурай БэБэ.

Тая-ж газэта (№ 5) са слоў „Gazety Warszawskiej Porannej" перадае, што: „рабочыя ў дзяржаўных аўтамабільных і аэрапланных майстроўнях у Варшаве астатнюю пэнсію атрымалі ў торбачках з такім агітацыйным надпісам: № 1 ёсьць адзіным сьпіскам маршала І. Пілсуцкага, які імкнецца да ўмацненьня дабрабыту краю. Не парлямант, а ўрад Пілсудскага даў табе работу, хлеб і г д.".

Гэта-ж газэта там жа передае, што „Расейская газэта" якую выдае ў Лунінцы партыя „Бэ Бэ" разсылаецца без паштовых марак, замест якіх да іх прыкладываецца толькі пячатка: „Павятовы Аддзел Лунінецкага Сойміка, пячатка для пісьмаў". І далей: „Ryczałtowana na mocy art. 23 ustawy 1924 r. o poczcie, telegrafie i telefonie". Гэта ўжо на скарбовы кошт?

Мы таксама ўжо адзначалі як у Сувалках дужа старанныя Бэ-бэхаўцы ў сваей адозве завуць усіх „пад скіпетр" І. Пілсуцкага.

Чытаючы ўсе гэта, дзіву даешся як жа жонд не разумее, што, калі ўсё гэта робіцца пад гаслам „Спулпрацы з жондам", дык гэта-ж кампрамітуе жонд, бо такая спо́ўпраца нічога добрага не абяцае.

Ды і наагул уся гэта зацея „БэБэ",— iсьці на выбары пад гаслам пэўнага жонду,— ёсьць у некатарым сэньсе правакацыя на „плебісцыт" (агульнае ўсенароднае заяўленьне народам сваей апініі ці сваей волі).

А што калі сьпісак Бэ Бэ большасьці не дастане? Ці-ж у жонда хопіць тады духу зрабіць „адпаведныя вывады?".

**Сябра.**

---

# Беларусы! галасуйце у Сойм і Сэнат за наш № 18.

# Палітычная хроніка.

**Нота Польшчы Літве.** 11-га лютага польскі ўрад пераслаў літоўскаму дыктатару Вальдэмарасу ноту-адказ на яго ноту ад дня 16 студзеня 1928 году. У перасланай ноце польскі ўрад канкрэтна пытаецца, ці хоча літоўскі ўрад зараз-жа распачаць перагаворы з мэтаю навязаць добрыя суседзкія адносіны між Польшчаю і Літвою.

**На якія грошы працуе Янка Станкевіч?** Рэдакцыя „Сялянскай Нівы“ атрымала гэтакае пісьмо, якое надрукавана ў 17 нумары.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Просім надрукаваць у сваей паважанай газэце ніжэй паданае:

Мы ніжэй падпісаныя, Шавэйка Каз. і Атрашкевіч Якуб, будучы з 22 студзеня да 15 г. лютага выбарнымі інструктарамі на Віленска-Троцкі павет, ад гэтак званага „Камітэту Сялянства і работніцтва“, назову якога ўжывае Янка Станкевіч, пазнаёміліся з дзейнасьцю Станкевіча і пераканаліся, што ён не зьяўляецца тым, чым рэклямуецца. Нам ведама, што Янка Станкевіч плаціць сваім інструктарам вялізарныя грошы. Ясна, што гэтыя грошы атрымаў Янка Станкевіч ад нейкіх цёмных сілаў. А дленя гэтага самага ня хочам выконываць яго прадажніцкае працы, шкоднай беларускаму працоўнаму народу і ад працы ў Станкевіча адмаўляемся.

Горача заклікаем усіх тых, хто яшчэ дагэтуль не зразумеў Янку Станкевіча і працуе ў яго крамцы, паверыць нашаму перакананьню і ўва імя добра працоўнага народу пасьледаваць за намі.

Не квапцеся на грошы Янкі Станкевіча, гэта — Мамона і аблуда! Трэба памятаць аб бедным і гаротным Народзе.

К. Шавэйка.

Я. Атрашкевіч.

16—II 1928 г.

— **Разрыў дыплёматычных адносінаў паміж Грэцыяй і Турцыяй** здарыўся 13 лютага. Грэцкі пасол выехаў з Ангоры.

— **СССР. і Бесарабія.** Па весткам з Адэсы тамашняя газэта зьмясьціла стацьцю аб Бесарабіі, дзе між іншым гаворыцца: „мы яшчэ раз заяўляем перад цэлым сьветам, што ня прызнаем істнуючых граніц.

Утварэньне аўтаномнай Малдавайскай Савецкай Рэспублікі зьяўляецца першым крокам да ўтварэньня Савецкай Бесарабіі“.

18 18 18

Гэтыя нумаркі разрэж і імі галасуй 4-га сакавіка ў Сойм, а 11-га ў Сэнат.

— **С.С.С.Р. шукае грошаў.** Паміж бальшавіцкім паслом у Токіо Траяноўскім і японскімі фінансістамі пачаліся перагаворы аб утварэньні савецкай пазыкі ў 150 міл. іен (іена прыблізна раўняецца рублю).

Такія-ж перагаворы агенты СССР. вядуць з швэйцарскімі фінансістамі ў Базэлі.

— **Палітычны крызыс у Румыніі.** Паўстаў з прычыны абвінавачаньня ў сэнаце прадстаўнікамі румынскага ўраду паслоў сялянскай партыі ў зносінах з масквой. Прадстаўнікі сялянскай партыі гэта катэгарычна адмовілі. Востры канфлікт зрабіўся таксама паміж урадам і праваслаўнай царквой у Сама градзе.

— **Міністэрскі крызыс у Югаславіі яшчэ ня скончыўся.** Па астатнім весткам кароль даручыў утворэньне кабінэту п. Марынкевічу.

**Дзесяцігодзьдзе Незалежнасьці Літвы.** 16 лютага г. г. прыпадалі ўгодкі Незалежнасьці Літвы. Дзень гэты адзначыўся, асабліва ў Коўне, пышным сьвяткаваньнем.

**Ліквідацыя „камуністаў“ у Галіччыне.** У сувязі з апошнімі арыштамі „камуністаў“ у ліку каля 50 асобаў на абшарах Малапольшчы і Валынскага ваяводзтва, ідзе далейшая ліквідацыя „камуністычнае арганізацыі Заходняе Украіны“. Польскія газеты пішуць, што асяродак гэтай арганізацыі месьціўся ў Луцку і на чале яе стаялі быўш. ураінскія паслы: Чучмай і Казіцкі.

10-га лютага паліцыя ў Луцку арыштавала каля 15 асоб, у тым ліку і б. паслоў Чучмая і Казіцкага.

У Львове дадаткова арыштавана яшчэ 5 асобаў.

У Тарнаполі, Станіслававе, Бродах, таксама арыштавана некалькі асоб.

# З беларускага жыцьця.

**Арышты нашых працаўнікоў.** Гэтымі днямі ў Браслаўі арыштаваны віцэ-этаршыня Беларускага Сялянскага Саюзу, кандыдат па сьпіску Нацыяналяных Меншасьцяў па Сьвянцянскаму выбарнаму вокругу, гр. Юхневіч. Прычыны арышту няведамы.

Некальк дзён перад гэтым быў арыштаваны актыўны працаўнік Блёку Нацыянальных Меншасьцяў у Сьвянцянскім павеце гр. Карэцкі.

**Судзьба Ваўкавыскага Камітэту.** Ваўкавыскія ўлады арыштавалі сэкрэтара Ваўкавыскага Беларускага Камітэту Блёку Нац. Меншасьцяў нашага кандыдата гр. Ю. Наруша і пры гэтым зьлiквідавалі Камітэт, дык Цэнтр арганізаваў новы Камітэт пад кіраўніцтвам гр. Булыгі.

Няведама з якіх прычынаў ваўкавыскія ўлады арыштавалі гр. Булыгу і атправілі этапам у Браслаўскі павет на мейсца заўсёдняго жыцця. Далейшы лёс гр. Булыгі яшчэ нам ня ведамы.

А гэтакім чынам Ваўкавыскі павет астаўся бяз ніякага кіраўніцтва выбарнымі справамі.

Па чуткам, быццам, гр. Ю. Наруш з пад арышту звольнены.

Цэнтральны Камітэт стараецца справу як-небудзь паправіць. Аб дзейнасьці ваўкавыскае адміністрацыі падаецца скарга Варшаўскім выбарным уладам.

### Агульны сход Т-ва "Беларуская Рада".

21-га студзеня 1928 г. адбыўся гадавы агульны сход Т-ва „Беларуская Рада" у Празе-Чэскай. У новы прэзыдыум Рады былі выбраны гэтакія асобы: М. Вяршынін—старшынёй, К. Сьцяпура—віцэ-старшынёй, І. Журэнкоў—сэкрэтаром. Кандыдатамі: Л. Рыдлеўскі і Ф. Клагіш, пры гэтым Рыдлеўскі прыняў на сябе абавязак скарбніка. У рэвізыйную камісію ўвайшлі: В. Лаўскі, В. Русак і А. Клімовіч.

**— Арышты кандыдатаў сьпіску № 18.** Апошнімі днямі ў Бэрэзе-Картускай арыштаваны гр. Салавей, а ў Ашмяне—Галяс, кандыдаты сьпіску № 18. Абодва арыштаваныя пасаджаны ў вастрог.

22 лютага б. пасол Ярэміч выехаў у Ашмяну на павятовы зьезд Аб'яднанага К-ту Блёку Нац. Меншасьцяў, які меўся быць 23 лютага, але на зьездзе б. п. Ярэміч ня быў прысутным.

Яго да адчыненьня зьезду арыштавалі органы Ашмянскай паліцыі.

Польскія газэты пішуць, што б. пасол Ярэміч арыштаваны па распараджэньню пракурорскіх уладаў, якія вінавацяць яго ў антыдзяржаўнай дзейнасьці. Апрача гэтага, проціў б. пасла Ярэміча ўзбуджана справа па 129 арт. К. К.

**— З жыцьця беларус. студэнтаў у Вільні.** У нядзелю 26.II 28 г. а 7 гадз. у вечары ў памешканьні Б. С. С., вул. Сьв. Ганны № 2, адбудзецца літэрацкі вечар, на якім выступяць маладыя поэтыцкія сілы — студэнты з Бел. Студэн. Саюзу.

Уваход за рэкамэндацыямі.

### Агульны сход Віленскага Гуртка Інст. Гасп. і Культуры.

6 лютага г. г. у памешканьні Бел. Інстыт. Гасп. і Культуры (Вострабрамская 8—1) адбыўся агульны сход 24 сяброў Віленскага Гуртка Гасп. і Культуры, на каторым адбыліся перавыбары ўраду Гуртка і было абгаворана некалькі справаў.

У новы ўрад Гуртка тайным галасаваньнем выбраны: М. Маскалік, А. Чайкаў і Я. Найдзюк.

Сход пастанавіў арганізаваць пры Бел. Інстытуце Гасп. і Культуры бібліатэку і адчыніць сваю чытальню ў гэтым-жа Інстытуце. Пастаноўлена так-жа арганізаваць струнны аркестр, купляючы неабходныя музыкальныя інструмэнты на дабравольныя складкі сяброў Гуртка і пабочныя ахвяры.

— **Зацьверджаньне канфіскаты беларускіх выданьняў.** Віленскі акружны суд на сваім гаспадарчым паседжаньні 7 лютага г. г. зацьвердзіў канфіскату № 12 „Сял. Нівы", а на паседжаньні 11-га лютага зацьвердзіў канфіскату № 4 (10) „Праваслаўнай Беларусі".

# Балючыя удары.

**Апошнімі часамі Беларускі Цэнтр. Аб'яднаны Выбарны Камітэт адчуў вельмі балючыя ўдары.**

**Арыштаваны і пасаджаны ў вастрогі гэтакія асобы:**

**1) Б. пасол Ф. Ярэміч—віцэ-старшыня Беларускага Сялянскага Саюзу, кандыдат па галоўнаму сьпіску.**

**2) К. Юхневіч—віцэ-старшыня Бел Сял. Саюзу, наш кандыдат па Сьвянцянскаму выб. вокругу.**

**3) Грамакоўскі—кандыдат па Віленскаму выб. вокругу.**

**4) Салавей—кандыдат па Берасьц. выб вокругу.**

**5) Галяс—кандыдат па Лідзкаму выб. вокругу.**

**А таксама арыштаваны нашыя працаўнікі:**

**6) Булыга Язэп—у Браслаўскім п.**

**7) Дварэцкі Мік.—сябра Цэнтр. К-ту Бел. Хрысьц. Дэмакратыі.**

**8) Шутовіч Янка—таксама.**

**9) Краўчонак Ант.—у Дзісьнен п.**

**10) Кулік Ст.—У Валожынскім п.**

**11) Карэцкі Язэп—у Сьвянцян п**

# Засуд і арышт бышага пасла Васіля Рагулі.

**27-га лютага адбыўся ў Наваградку суд над б. паслом Васілём Рагуляй. Пасьля разгляду справы і дапросу толькі трох сьведкаў з боку абвінавачаньня** (дадатковых сьведкаў б. пас. Рагулі суд ня прыняў). — **Суд засудзіў п. Рагулю на 2 гады цяжкага вастрогу (катаргі) Зараз пасьля прыгавору п Рагулю арыштавалі і пасадзілі ў вастрог у Наваградку.**

**Былы пасол Рагуля зьяўляецца першым кандыдатам у Сойм і Сэнат у Наваградзкім выбарным вокрузе па сьпіску Блёку Нацыянальных Меншасьцяў № 18. Пасьля выбараў Сойм ці Сэнат можа пастанавіць устрымаць выкананьне прысуду і выпусьціць п. Рагулю з вастрогу.**

---

**РЭДАКЦЫЯ** просіць сваіх чытачоў прысылаць падпісную плату і трэбаваць „Праваслаўную Беларусь" на сваіх поштах. Высылаем акуратна. У мэце пашырэньня часопісі Рэдакцыя абнізіла плату з 2 зл. 50 гр. да 2 зл. за 1/4 года. Тым падпішчыкам, якія прыслалі ўжо за першую 1/4 года 2 зл. 50 гр. Гэтыя 50 гр. будуць залічаны на наступны квартал.

---

**ЗЬМЕСТ.** 

---

Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.